Ф. Багушэвіча. Выкарыстанне сюжэтаў і элементаў паэтыкі фальклорных твораў. Фальклорныя вобразы і матывы ў мастацкай структуры паэтычных твораў Ф. Багушэвіча. Рамантычнае, натуралістычнае, рэалістычнае і функцыі гратэску ў паэзіі Ф. Багушэвіча.

Праблематыка польскамоўных вершаў "*Прывід надзеі*", "*Запавет*", "*Дагарае рэшта веццяя...*" і інш.

Апавяданні Ф. Багушэвіча. Праблематыка і мастацкая адметнасць апавядання "*Тралялёначка*". Сацыяльная тыпалогія вобразаў Бартака Саска і Антона Сабковіча (з "Залётаў" В. Дуніна-Марцінкевіча). Крытыка буржуазнага драпежніцтва ў апавяданні. Сатырычная скіраванасць і сутнасць сацыяльна-этычнага канфлікту, адлюстраванага ў творы. Асаблівасці сюжэтабудавання. Апавяданне "*Тралялёначка*" і традыцыі рускай народніцкай белетрыстыкі. Фальклорная аснова апавяданняў "*Сведка*", "*Палясоўшчык*", "*Дзядзіна*". Літаратурная апрацоўка народных жартаў, паказак, казак-небыліц. Моўнае майстэрства пісьменніка. Ф. Багушэвіч як верагодны аўтар твораў "*Гаспадары, да Вас пішым гэта апавяданне...*" і "*Ігналева сякера*".

Значэнне творчай спадчыны Ф. Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры.

**Янка Лучына** (Ян Неслухоўскі; 1851–1897). Жыццяпіс. Паходжанне і выхаванне. Гады вучобы ў Мінскай гімназіі і Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце. Чыннікі фарміравання светапогляду паэта (дэмакратычныя традыцыі сям'і, уплыў ідэй нацыянальна-вызваленчага руху, народніцкай ідэалогіі і філасофіі пазітывізму). Супрацоўніцтва з перыядычнымі выданнямі і альманахамі. Акалічнасці звароту да творчасці на беларускай мове. Кантакты з дзеячамі культуры. Драматызм жыццёвага і пісьменніцкага лёсу. Гісторыя выдання зборнікаў "*Poezje*" (1898) і "*Вязанка*" (1903). Асоба Я. Лучыны і яго творчая спадчына ў ацэнках сучаснікаў.

Асноўныя матывы лірыкі. Рамантычная і рэалістычная плыні ў творчасці. Паглыблены псіхалагізм, філасафічнасць. Патрыятычны пафас і асветніцкія ідэі ў вершы "*Роднай старонцы*". Выкарыстанне элементаў жанравай формы гутаркі ў вершах "*Вясновай парой*", "*Што птушкі казалі*", "*Стары ляснік*". Грамадзянскі пафас вершаў "*Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова*", "*Дзень за днём*". Рамантычны алегарызм вершаў "*Вясна*", "*Пагудка*", "*Каршун*", "*Сівер*". Форма ўнутранага маналогу і псіхалагізм у вершы "*Што думае Янка, везучы дровы*

*ў горад"*. Пейзажныя замалёўкі і рэалістычная канкрэтнасць вобразаў сялян. Наследаванні і пераклады на беларускую мову твораў У. Сыракомлі. Структура і праблематыка зборніка "*Вязанка*". Тыпалогія творчасці Я. Лучыны і Ф. Багушэвіча.

Адметнасць польскамоўнай лірыкі. Спецыфіка лірычнага самараскрыцця ў вершах "*Што люблю?*", "*Дзве зоркі*", "*Змрочныя думкі*", "*Не хачу памерці*", "*Раскоша натхнення*". Адлюстраванне і паэтызацыя народнага светабачання ў вершах "*Песня аратая*", "*Прадвесне*", "*Рунь*". Тэма паэта і паэзіі ў вершы "*Голас натоўпу*".

Паэма "*Паляўнічыя акварэлькі з Палесся*". Гісторыя стварэння і кампазіцыя твора. Вера ў сацыяльны і навукова-тэхнічны прагрэс грамадства. Сцвярджэнне духоўнай годнасці простага чалавека. Прыземлена-практычнае і манументальнае ў вобразе лесніка Грышкі. Вобраз паніча як носьбіта кніжнай культуры. Характар стасункаў (сяброўства) паміж героямі і ідэя сацыяльнага салідарызму. Паэтызацыя прыроды і адносіны да тэхнічнага прагрэсу ў аспекце маральна-этычных катэгорый. Роля і функцыі лірычных адступленняў у паэме. Паляўнічая "канкрэтыка" і эстэтычныя задачы аўтара. Паэма "*Паляўнічыя акварэлькі з Палесся*" ў кантэксце традыцый М. Гусоўскага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі.

Паэтычнае майстэрства Я. Лучыны.

Празаічныя творы. Маральная праблематыка ў беларускамоўным абразку "*Старасць не радасць…*". Адлюстраванне падзей 1860-х гг. на Міншчыне і патрыятычны пафас у польскамоўным абразку "*З крывавых дзён*". Білінгвістычны (руска-беларускі) характар падарожнага нарыса "*Са святочнай паездкі*".

Значэнне творчасці Я. Лучыны (Я. Неслухоўскага) у гісторыі беларускай літаратуры.

**Эліза Ажэшка** (1841–1910). Біяграфія пісьменніцы. Фарміраванне асобы. Беларускія чыннікі выхавання і грамадзянскага станаўлення пісьменніцы. Сувязь з паўстаннем 1863–1864 гг. Асветніцкая праца Э. Ажэшкі, вывучэнне і папулярызацыя беларускага фальклору Гродзеншчыны. Творчыя кантакты з Ф. Багушэвічам. Творчасць Э. Ажэшкі ў кантэксце беларускай літаратуры. Пераклады на беларускую мову і папулярызацыя твораў Э. Ажэшкі ў канцы XIX – пачатку XX стст. Сучасныя выданні твораў пісьменніцы па-беларуску.

Мастацкае асэнсаванне краёвай рэчаіснасці ў "сялянскіх" аповесцях 80-х гг. ("*Нізіны*" (1884), "*Дзюдзі*" (1885), "*Хам*" (1888). Шырокае выкарыстанне беларускай мовы і фальклору. Кантрасты народнага жыцця, сацыяльна-псіхалагічны характар і крытычны пафас твораў. Гуманізм аўтарскай пазіцыі. Стварэнне адметных вобразаў беларускіх сялян. Ідэйна-мастацкія функцыі жаночых персанажаў у аповесцях.

Адлюстраванне ў аповесці "*Нізіны*" галечы, безабароннасці і забітасці сялянства. Сацыяльная і псіхалагічная абгрунтаванасць вобразаў сялян у аповесці "*Дзюрдзі*". Асаблівасці канфлікту і аналіз маралі сялянскага асяроддзя. Паказ патрыярхальнасці і забабоннасці пры раскрыцці "сялянскай" тэмы. Складанасць аўтарскіх адносінаў да беларускага сялянства. Праблематыка, палемічная скіраванасць і элемент публіцыстычнасці ў аповесці "*Хам*". Вобразы галоўных герояў Паўла Кабыцкага і Франкі Хамуўны. Пабочныя персанажы. Паэтызацыя прыроды і роднага краю ў творы. Трагедыя галоўнага героя і функцыі твораў беларускага фальклору і этнаграфічнага матэрыялу ў мастацкай структуры апавядання "*Зімовым вечарам*" (1887).

Значэнне творчасці пісьменніцы для беларускай культуры.

**Альгерд Абуховіч** (1840–1898). Жыццяпіс. Паходжанне і фарміраванне асобы пісьменніка. Вучоба ў Слуцкай гімназіі. Побыт у еўрапейскіх краінах. А. Абуховіч і паўстанне 1863–1864 гг. Дэмакратызм светапогляду. Сямейная драма. У кантакце з беларускімі пісьменнікамі А. Перасветам-Солтанам, Ф. Багушэвічам, Я. Дылам. Апошнія гады жыцця. Лёс творчай спадчыны.

"*Мемуары*" А. Абуховіча як каштоўная крыніца для вывучэння біяграфіі пісьменніка і характарыстыкі грамадскіх настрояў у Беларусі ў XIX ст. Праблемы беларускай культуры ў асвятленні аўтара. Публіцыстычны і мастацкі пачатак у "*Мемуарах*".

Паэзія А. Абуховіча. Праблематыка, крыніцы сюжэтаў і нацыянальны каларыт баек. Пытанне ўнутранай свабоды чалавека і аўтабіяграфічны характар байкі "*Ваўкалак*". Крытыка вынікаў рэформы 1861 г. у байцы "*Старшына*". Паказ традыцыйных людскіх заганаў і правасуддзя ў байках "*Воўк і лісіца*" і "*Суд*". Майстэрства байкапісца. Спроба паэтычнага асэнсавання гісторыі ў вершы "*Дума а Каралю XII*". А. Абуховіч як верагодны аўтар вершаў "*Шоў я ўчора ўночы з Глуска*" і "*Узбійся ўгору, мой саколе!*"

Звесткі пра пераклады на беларускую мову А. Абуховічам твораў Пятраркі, Дантэ, Гётэ, Шылера, Байрана, Гюго, польскай і рускай паэзіі XIX ст. А. Абуховіч як пачынальнік жанру байкі і беларускай мемуарыстыкі ў літаратуры новага часу.

**Фелікс Тапчэўскі** (1838–1892). Біяграфічныя звесткі. Дачыненне да вызваленчага руху. Папулярнасць твораў у народным асяроддзі. Лёс паэтычнай спадчыны. Ф. Тапчэўскі як паэт-гумарыст. Спецыфічнасць ідэйных пазіцый і майстэрства ў адлюстраванні камічнага. Шляхецкая ідэалізацыя мінулага ў вершы "*Саўсім не тое, што было*". Дэмакратычная пазіцыя ў трактоўцы канфлікту паміж працай і капіталам у вершы "*Грошы і праца*". Гумарыстычны паказ жыцця ў вершах "*Ён і яна*", "*Вечарынка*". Адметнасць вобразу аўтара-селяніна як старонняга назіральніка-апавядальніка. Асаблівасці паэтыкі твораў пісьменніка. Пытанне аўтарства верша "*Панскае ігрышча*". Ацэнка твора Ф. Багушэвічам. Ф. Тапчэўскі як верагодны аўтар паэмы "Тарас на Парнасе".

**Адам Гурыновіч** (1869–1894). Біяграфія. Беларусазнаўчыя даследаванні. А. Гурыновіч як выразнік радыкальных ідэй вызваленчага руху. Трагізм лёсу паэта і яго творчай спадчыны.

Мастацкая шматграннасць і самабытнасць творчасці А. Гурыновіча. Публіцыстычная паэзія як найбольш рэпрэзентатыўная ў творчасці А. Гурыновіча. Грамадзянскі пафас вершаў "*Што ты спіш, мужычок…*", "*Перш душылі паны…*", "*Што за звук ды так громка раздаўся…*" і інш. Зварот да Ф. Багушэвіча ў вершы "*Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею…*". Пошукі ў галіне медытатыўнай і песеннай лірыкі ("*Сцямнела на двары, і ціха кругом…*", "*Да жніва*", "*Па жніве*"). Функцыі пейзажных замалёвак у вершах "*Бор*", "*Вясна*". Асветніцкія ідэі і адкрыты дыдактызм верша "*Раз у Зольках, у дзярэўні…*". Творы для дзяцей "*Каток*" і "*Рыбак*". Жанравая разнастайнасць лірыкі. Пераклады з польскай, рускай, украінскай моў. Шырыня перакладчыцкага дыяпазону А. Гурыновіча.

**Публіцыстыка беларускіх народнікаў**. Выданне нелегальных рускамоўных адозваў і зваротаў сацыяльна-эканамічнага і палітычнага зместу: "*Да беларускай моладзі*" (1881), "*Пісьмы пра Беларусь*" (1882) Д. Баравіка, "*Да беларускай інтэлігенцыі*" (1883), "*Пасланне да землякоў-беларусаў*"(1884) Шчырага Беларуса. Абгрунтаванне ідэі пра існаванне этнічна самастойнай беларускай нацыі, пра права беларускага

народа на культурную, эканамічную і палітычную незалежнасць у праграмна-тэарэтычным часопісе "*Гомон*" (1884).

**Александр Ельскі** (1834–1916). Біяграфія і фарміраванне асобы пісьменніка. Шырыня навуковых і культурных інтарэсаў. Беларускі верш А. Ельскага "*Вінцуку Дуніну-Марцінкевічу*" (1872). Супрацоўніцтва ў энцыклапедычных выданнях і калекцыянерская дзейнасць. Даследаванні па праблемах культуры (артыкулы "*Адам Міцкевіч на Беларусі*" (1885), "*Пра беларускую гаворку*" (1885), "*Беларусь*" і "*Беларуская літаратура і бібліяграфія*" (1892). Пераклады на беларускую мову твораў А. Міцкевіча: санета "*Бура на моры*" (1889), першае кнігі паэмы "*Пан Тадэвуш*" (1892). Маральна-этычная праблематыка твораў для народа "*Сынок*" (1895), "*Выбіраймася ў прочкі*" (1896), "*Слова аб праклятай гарэлцы*" (1900). Прапаганда творчасці А. Міцкевіча і В. Дуніна-Марцінкевіча. Каштоўнасць эпісталярнай спадчыны пісьменніка (лісты да Я. Карловіча). Значэнне асветніцкай чыннасці.

**Войслаў Савіч-Заблоцкі** (1850 – пасля 1893). Біяграфічныя звесткі. Чыннікі фарміравання светапогляду. Удзел у народніцкім гуртку "Крывіцкі вязок" (1868). Рэпрэсіі ўладаў. Эміграцыя і вандроўніцтва па краінах Еўропы. Вяртанне на радзіму. Загадкавасць лёсу.

Элегічны характар і асэнсаванне мінулага Беларусі ў цыкле беларускіх вершаў "*З чужыны*", "*У роднай зямлі*", "*Да перапёлкі*" (1873). Палітычны аспект у вершы-звароце "*Беларуская пея*" (1882). Польскамоўная аповесць "*Полацкая шляхта*" (1885) у кантэксце літаратуры Беларусі XIX ст. Патрыятычны пафас і сакралізацыя вобразу радзімы. Праблема абуджэння самасвядомасці народа як ідэйны стрыжань аповесці. Традыцыі і наватарства ў творы. Асоба, славянафільскія і народніцкія погляды, аспекты беларускай месіянскай ідэі ў беларускамоўных лістах (1886) В. Савіча-Заблоцкага да М. Драгаманава.

**Зоф'я Манькоўская** (Адам М-скі, Тшашчкоўская; 1847–1911). Біяграфічныя звесткі. Паходжанне і выхаванне. Жыццё па-за межамі краю. Пачатак творчага шляху. Своеасаблівая паэтыка маскі ў творчасці. У. Сыракомля, Я. Лучына, Ф. Багушэвіч і З. Манькоўская. Фалькларыстычная дзейнасць паэтэсы. Вяртанне на радзіму. Апошнія гады жыцця.

Верш "*Божа, наш бацька...*" ("*Беларуская малітва*") (1888) як узор патрыятычнай лірыкі. Першы ў беларускай паэзіі ўзор "нацыянальнай

малітвы". Хрысціянскія традыцыі і раскрыццё сялянскага светабачання. Пераклады на беларускую мову з польскай вершаў Т. Ленартовіча, Я. Чачота і М. Канапніцкай. Паэтычная дасканаласць, дакладнасць перадачы вобразаў і тонкі элегічны лірызм. Польскамоўная лірыка. Патрыятычныя матывы, адлюстраванне беларускіх краявідаў, краёвых рэалій і ментальнасці ў паэтычных нізках "*Песні дарагавіцкія*", "*Ліcткі, выкраданыя з дзённіка жанчыны*" і інш.

**Аляксандр Шункевіч** (Мікалай Марозік, каля 1852 – пасля 1913). Факты біяграфіі. Папулярнасць у народзе дыдактычных вершаў сялянскага паэта-самавука. Удзел у грамадскім і літаратурным жыцці. Вершаванае гумарыстычнае апавяданне "*Сцяпан і Тацяна*" (1889). Побытавы характар, элементы бурлеску і пародыі на ўзоры высокай паэзіі ў творы. Спецыфіка адлюстравання канфлікту бацькоў і дзяцей, любоўных і сямейных калізій. Апавядальніцкае майстэрства аўтара.

**Вільгельм Пратасевіч** (?–1880). Вершаваная гутарка "*Суседчык Гавейскі*" (каля 1875). Гумарыстычная скіраванасць апавядання пра паляўнічыя прыгоды. Паэтыка твора.

**Лявон Вітан-Дубейкаўскі** (1869–1940). Біяграфічныя звесткі. Дзейнасць у галіне архітэктуры і будаўніцтва. Сувязь з беларускім нацыянальным рухам. Сацыяльная праблематыка байкі "*Цягне воўк – пацягнуць воўка!*". Верш "*Бура*", грамадзянскі пафас твора. Рукапісны зборнік "Мае думы і мыслі" (1893).

**Марыя Косіч** (1850–?). Біяграфічныя звесткі. Фалькларыстычная дзейнасць. Паэма "*На перасяленне*". Лірызм твора, фальклорныя традыцыі. Пераклады і вольныя наследаванні І. Крылову.

**Ананімная літаратура.** *Горавід-Будзіцель.* Гісторыя публікацыі вершаў "*Палякам у дзень 3-га мая*", "*Я клічу вас…*". Праблема аўтарства твораў. Рэвалюцыйна-дэмакратычны пафас вершаў, ідэя нацыянальнага адраджэння беларусаў. Паэтычнае майстэрства аўтара.

Адлюстраванне пасляпрыгонніцкай рэчаіснасці ў "*Гутарцы ў карчме*" і вершах "*Мужыцкая доля*", "*Ой, у полі вецер вые…*". Зямельнае пытанне і сацыяльная бяспраўнасць як асноўныя праблемы беларускага сялянства.

Акалічнасці публікацыі, пытанне аўтарства і лірычны характар вершаў "*Ноччу ў сяле*", "*Могілкі*".

Асветніцка-агітацыйны і публіцыстычны пафас выдадзенай у перакладзе на беларускую мову брашуры "*Дзядзька Антон, або Гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць – не ведаем*" (1892).

Выяўленне народнай прагі справядлівасці і праўдашукальніцтва ў вершах "*Дудар*" і "*Праўда*". Фальклорныя вытокі твораў.

Народная смехавая традыцыя ў вершаванай гутарцы "*Тэатр*". Тыпалагічная блізкасць паэтыкі твора з гумарыстычнай паэзіяй Ф. Багушэвіча.

Тэма патрыятызму, гуманістычны пафас і праблема нацыянальнай самасвядомасці ў вершы "*Хто я?*".

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

Асноўныя этапы развіцця Новай беларускай літаратуры, вынікі яе эвалюцыі. Нацыянальная адметнасць Новай беларускай літаратуры. Значэнне Новай беларускай літаратуры для станаўлення беларускай літаратуры XX стагоддзя. Новая беларуская літаратура і сусветны літаратурны працэс.

# ЛІТАРАТУРА

## I. Асноўная (Вучэбныя дапаможнікі. Даследаванні)


- Адам Міцкевіч і Беларусь. Мн., 1998.
- Александровіч С., Александровіч В. Беларуская літаратура XIX – пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мн., 1976.
- Александровіч С.Х. Вольнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі. Мн., 1975.
- Александровіч С.Х. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971.
- Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік: У 6 т. Мн., 1992–1995.
- Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1992.
- Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: У 2 т. Літаратура XIX – пачатку XX ст. Мн., 1969. Т. 2.
- Гісторыя беларускай літаратуры: Старажытны перыяд / 3-е выд. Мн., 1997.
- Гісторыя беларускай літаратуры: XIX – пачатак XX ст. 2-е выд., дапрац. Мн., 1998.
- Даніленка С. Між і Радзіма: Сакралізацыя дзяржавы-Радзімы ў літаратуры польска-беларускага рамантызму. Мн., 1999.
- Запрудскі І.М. Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 2003.
- Каваленка В.А. Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Мн., 1975.
- Каваленка В.А. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры. Мн., 1981.
- Кісялёў Г. Ад Чачота да Багушэвіча. Мн., 1993; 2003.
- Кісялёў Г. Радаводнае дрэва. Мн., 1994.
- Кісялёў Г. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1988.
- Лазарук М.А. Станаўленне беларускай паэмы: Жанр паэмы і некаторыя асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў першай палавіне XIX ст. Мн., 1968.
- Лойка А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура. Мн., 1959.
- Лойка А.А. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд: У 2 ч. 2-е выд., дапрац. і дап. Мн., 1989. Ч. I.
- Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя: Нарысы быту і звычаяў. Мн.,1982.
- Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянских традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду: другая палавіна XVII–XVIII ст. Мн., 1980.
- Мальдзіс А. Традыцыі польскага Асветніцтва ў беларускай літаратуры XIX ст. Мн., 1972.
- Мархель У. "Ты як здароўе…": Адам Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры. Мн., 1998.
- Мархель У.І. Прадвесце: Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне ў першай палавіне XIX ст. Мн., 1991.

❖ Мархель У. Прысутнасць былога: Нарысы, артыкулы, эсэ. Мн., 1997.
❖ Мархель У. Лірнік вясковы: Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні. Мн., 1983.
❖ Навуменка І.Я. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1992.
❖ Навуменка І.Я. Пісьменнікі-дэмакраты. Мн., 1967.
❖ Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных узаемаадносін: У 4 кн. Кн. I. Мн., 1993.
❖ Парэцкі Я.І. Міхаіл Карыцкі. Мн., 1991.
❖ Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX стагоддзя. Мн., 1977; Мн., 2003.
❖ Родчанка Р. Альгерд Абуховіч: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984.
❖ Семяновіч А.А. Гісторыя беларускай драматургіі. XIX – пачатак XX ст. Мн., 1985.
❖ Тарасюк Л.К. Апалогія красы: Кніга пра беларускую паэзію. Мн., 2003.
❖ Уладыкоўская-Канаплянік Л. Акварэлі любові: Канцэпцыя нацыянальнага светапогляду ў творчасці Янкі Лучыны. Мн., 2000.
❖ Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.
❖ Хаўстовіч М. Гісторыя беларускай літаратуры 30–40-х гг. XIX ст. Мн., 2001.
❖ Хаўстовіч М. На парозе забытае святыні: Творчасць Яна Баршчэўскага. Мн., 2002.
❖ Хаўстовіч М. Мастацкі метад Яна Баршчэўскага. Мн., 2003.
❖ Штэйнер І.Ф. Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя. Мн., 2002.
❖ Янушкевіч Я. Беларускі Дудар. Мн., 1991.
❖ Яскевич А.С. Становление белорусской художественной традиции. Мн., 1987.

### II. Дадатковая

❖ Багдановіч І.Э. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. Мн., 2001.
❖ Багушэвіч Ф. // Крыніца. 1995. №11–12 (16).
❖ Барысенка В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Мн., 1957.
❖ Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII в. Мн., 1992.
❖ Бас І. Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні. Мн., 1969.
❖ Грынчык М.М. Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі. Мн., 1969.
❖ Дадиемова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII в. Мн., 1992.
❖ Дорошкевич Э., Конон Вл. Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972.
❖ Дрозд С. Адам Міцкевіч і Янка Купала: духоўнае пабрацімства (беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі XIX – пачатку XX стагоддзяў. Гродна, 1998.
❖ Жураўлёў В.П. У пошуках духоўных ідэалаў.На матэрыяле беларускай

літаратуры XIX – пачатку XX ст. Мн., 2000.
- Казбярук У. Ступені росту: Беларуская літаратура канца XIX – пачатку XX ст. і традыцыі польскіх пісьменнікаў. Мн., 1974.
- Кісялёў Г. Загадка беларускай “Энеіды”. Мн., 1971.
- Киселёв Г. Разыскивается классик...: Историко-литературная дилогия. Мн., 1989.
- Кісялёў Г. Героі і музы. Мн., 1982.
- Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978.
- Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мн., 1963.
- Ларчанка М. Па шляху рэалізма. Мн., 1959.
- Лецка К.І. Вытокі і генезіс беларускага рамантызму XIX стагоддзя. Гродна, 2003.
- Лойка А.А., Перкін Н.С. Беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі ў XIX ст. Мн., 1963.
- Майхрович С.К. Жизнь и творчество Ф. Богушевича. Мн., 1961.
- Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў: Нарысы, эсэ, дзённікі. Мн., 1987.
- Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969.
- Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мн., 1974.
- Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966.
- Мархель У.І. Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. Мн., 1990.
- Мархель У. Вяшчун славы і волі: Уладзіслаў Сыракомля. Мн., 1989.
- Мысліцелі і асветнікі Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1995.
- Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта: Навуковы зборнік. Вып. 1–6. Мн., 2001–2005.
- Перкін Н. Абсягі думкі. Мн., 1980.
- Самбук С.М. Общественно-политическая мысль Белоруссии во второй половине XIX века. Мн., 1976.
- Семашкевіч Р.М. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбургу: Канец XIX – пачатак XX ст. Мн., 1971.
- Содаль У. Сцежкамі Мацея Бурачка. Мн., 1991.
- Тарасюк Л.К. Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX – пачатку XX ст. Мн., 1999.
- Творчасць Элізы Ажэшкі і беларуская культура: Зборнік навуковых прац. Гродна, 2002.
- Тычына М. Карані і крона. Мн., 1991.
- Уладзіслаў Сыракомля: Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі. Мн., 2004.
- Усікаў Я. Беларуская камедыя. Мн., 1979.
- XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая /Уклад. М. Хаўстовіч. Мн., 1999.

- XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. другая /Уклад. М. Хаўстовіч. Мн., 2000.
- Хромчанка К.Р. Беларуская мастацкая проза (канец XIX – пачатак XX ст.). Мн., 1979.
- Цьвікевіч А. "Западно-руссизм". Мн., 1993.
- Цвірка К.А. Лісце забытых алеяў: Эсэ. Мн., 1993.
- Цвірка К.А. Слова пра Сыракомлю: Быт і культура беларусаў у творчасці "вясковага лірніка". Мн., 1975.
- Шалькевич Ф. Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Мн., 1988.
- Штэйнер І.Ф. Беларуская балада: Вытокі жанру і паэтычная структура. Мн., 1989.
- Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Мн., 1984–1987.
- Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры: Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі. Мн., 2002.
- Янушкевіч Я. За архіўным парогам. Мн., 2002.
- Ян Чачот, Ігнат Дамейка, сябры і паплечнікі Адама Міцкевіча: Матэрыялы Трэціх і Чацвёртых Карэліцкіх чытанняў. Мн., 1998.

## III. Мастацкія тэксты

- Абуховіч А. Творы. Мн., 1991.
- Ажэшка Э. Аповесці, апавяданні, нарысы. Мн., 2000.
- Аношка Я. Вершы // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. другая. Мн., 2000.
- Асорыя-Цяплінскі М. Нешта тут сабакам смярдзіць // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999.
- Багрым П. Зайграй, зайграй, хлопча малы… // Паўлюк Багрым. Мн., 1994.
- Багушэвіч Ф. Творы. Мн., 1991.
- Булгарын Ф. Выбранае. Мн., 2003.
- Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. 2-е выд., перапрац. і дап. / Склад. А.А. Лойка, В.П. Рагойша. Мн., 1988.
- Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў: Зборнік тэкстаў / Склад. М. Хаўстовіч. Мн., 2000.
- Баршчэўскі Я. Выбраныя творы. Мн., 1998.
- Баршчэўскі Я. Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мн., 1996.
- Віцебскі летапіс // Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997.
- Вярыга-Дарэўскі А. Гутарка пра сваяка // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Выпуск трэці. Мн., 2002; Выпуск чацвёрты. Мн., 2003.
- Гроза А. Нечаканы госць // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999.
- Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984.
- Ельскі А. Выбранае. Мн., 2004.
- Жавускі Г. Успаміны Сапліцы. Мн., 2005.
- Занятад і адраджэнне: Бел. літ. XIX ст. Мн., 2001.

- Каліноўскі К. За нашую вольнасць: Творы, дакументы. Мн., 1999.
- Каратынскі В. Творы. Мн., 1994.
- [Киркор А.] Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье: Репринт. воспроизведение изд. 1882 г. Мн., 1993.
- Крашэўскі Ю.І. Апошнія хвіліны Пане Каханку // Крыніца. 1998. № 3.
- Крашэўскі Ю.І. Кунігас // ХІХ стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999.
- Крашэўскі Ю.І. Хата за вёскай. Мн., 1989.
- Лада-Заблоцкі Вершы // Роднае слова. 1994. № 10.
- Лада-Заблоцкі Вершы // Полымя. 1992. № 10.
- Лада-Заблоцкі Т. Ваколіцы Віцебска // Шляхам гадоў: Гіст.-літаратурны. зборнік. Мн., 1994.
- Лада-Заблоцкі Т. Лісты да Ю.І. Крашэўскага // ХІХ стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999.
- Літаратура Беларусі: Першая палова ХІХ стагоддзя: Хрэстаматыя. Мн., 2000.
- Лучына Я. Творы. Мн., 2001.
- Ляскоўскі Ю. На чужой старане // Працы кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ. Выпуск трэці. 2002; Выпуск чацвёрты. Мн., 2003.
- Магілёўская хроніка // Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997.
- Манькоўская З. З "Дзённіка кабеты" // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Выпуск другі. Мн., 2002.
- Марашэўскі К. Камедыя // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978.
- Матушэвіч М. Дыярыюш жыцьця маяго // Спадчына. 1996. № 5. 1997. № 1–2.
- Міцкевіч А. Вершы і паэмы. Мн., 2000.
- Міцкевіч А. Выбраныя творы. Мн., 1955.
- Міцкевіч А. Дзяды. Мн., 1999.
- Міцкевіч А. Дзяды. Мн., 2001.
- Міцкевіч А. "Зямля навагрудская, краю мой родны..." Мн., 1969.
- Міцкевіч А. Пан Тадэвуш. Мн., 1998.
- Міцкевіч А. Санеты. Мн., 1998.
- Народны тэатр. Мн., 1983.
- Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі // Баршчэўскі Я. Шляхціц Завальня. Мн., 1990.
- Падбярэскі Р. Лісты пра Беларусь // Шляхам гадоў: Гіст.-літаратурны. зборнік. Мн., 1994.
- Пільштынова С. Авантуры майго жыцця. Мн., 1993.
- Публицистика белорусских народников. Мн., 1983.
- Равускі Г. Князь Радзівіл Пане Каханку // ХІХ стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999.
- Равускі Г. (Жавускі Г.) Тадэвуш Рэйтан // Спадчына. 1997. № 4.

- Радзівіл М. Агатка, або Прыезд пана // Беларуская літаратура XVIII–XIX ст.: Зборнік тэкстаў. Мн., 2000.
- Радзівіл Ф.У. Выбраныя творы. Мн., 2003.
- Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай: Беларуская польскамоўная паэзія XIX стагоддзя. Мн., 1998.
- Савіч-Заблоцкі В. Арлалёты і Падканвойны, або Полацкая шляхта // Полымя. 2004. № № 1, 3, 4, 6.
- Савіч Ф. "Там блізко Піньска...". Успаміны. Споведзь пакутніка // Шляхам гадоў: Гіст.-літаратурны. зборнік. Мн., 1994.
- Сыракомля У. Добрыя весці. Мн., 1993.
- Тшашчкоўская З. [Вершы] // Літаратура і мастацтва. 2001. 19 студз.
- Тшашчкоўская З. Песні дарагавіцкія // Полымя. 2001. №1.
- Філаматы і філарэты: Зборнік. Мн., 1998.
- Ходзька І. Успаміны квестара // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. першая. Мн., 1999; Кн. другая. Мн., 2000.
- Ходзька Я. Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Вып. другі. Мн., 2002.
- Храпавіцкі І. Погляд на паэзію беларускага люду // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. другая. Мн., 2000.
- Цяцерскі М. Доктар па прымусу // Беларуская дакастрычніцкая драматургія. Мн., 1978.
- Чачот Я. Выбраныя творы. Мн., 1996.
- Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992.
- Энеіда навыварат // Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя. Мн., 1988.
- Янкоўскі П. Засценак. Некалькі ўніверсітэцкіх успамінаў. Тры браты дзедзічы // XIX стагоддзе: Навукова-літаратурны альманах. Кн. другая. Мн., 2000.

# ПРЫКЛАДНЫЯ ТЭМЫ КУРСАВЫХ І ДЫПЛОМНЫХ РАБОТ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

- Беларуская літаратура XVIII–XIX ст. у даследаваннях літаратуразнаўцаў XIX–XX ст.
- Майстэрства Ю. Трубніцкага-апавядальніка (“Магілёўская хроніка”).
- Барочныя матывы ў беларускамоўнай паэзіі XVIII ст.
- Фальклорныя матывы ў песенна-інтымнай лірыцы XVIII ст.
- Паэтыка беларускай песенна-інтымнай лірыкі.
- Беларуская мемуарыстыка і летапісанне ў XVIII ст.
- Сімволіка і алегорыя ў беларускай літаратуры XVIII ст.
- Спавядальнасць і літаратуршчына ў “Авантурах майго жыцця” С. Пільштыновае.
- Беларуская польскамоўная паэзія другой паловы XVIII ст.
- Майстэрства Ф.У. Радзівіл-драматурга.
- Фальклорныя матывы ў “Торбе смеху” Караля Жэры.
- Паэтыка беларускіх інтэрмедый.
- Сутнасць канфлікту ў “Камедыі” К. Марашэўскага.
- Асаблівасці класіцызму М. Карыцкага.
- Рэальны і алегарычны план “Агаткі” М. Радзівіла.
- Філасофія і паэтыка беларускай батлейкі.
- Камедыя М. Цяцерскага “Доктар па прымусу” і драматургія Ж.Б. Мальера.
- “Агатка” М. Радзівіла ў гісторыі беларускага тэатра і драматургіі.
- “Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман” Я. Ходзькі як класіцыстычны твор.
- Герой і антыгерой у камедыі “Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман” Я. Ходзькі.
- “Залёты аднаго гайдука да прачкі” і “Пінская шляхта” В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Беларускі фальклор у баладах А. Міцкевіча.
- Возера Свіцязь у паэзіі філаматаў (А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан).
- Апалогія рамантычнага ў “Рамантычнасці” А. Міцкевіча.
- Рэальнасць і вымысел у “Гражыне” А. Міцкевіча.
- Марыля Верашчака ў паэзіі і карэспандэнцыі А. Міцкевіча.
- Беларуская архаіка як аснова мадэлі свету А. Міцкевіча (II частка “Дзядоў”).
- “Гражына” А. Міцкевіча і традыцыі еўрапейскай літаратуры.
- Гістарычнае і мастацкая фальсіфікацыя гісторыі ў “Конрадзе Валенро-дзе” А. Міцкевіча.
- Сутнасць паняцця “валенрадызм” (А. Міцкевіч “Конрад Валенрод”).
- Аўтабіяграфічнае ў “Дзядах” А. Міцкевіча.
- Беларускі кантэкст паэмы А. Міцкевіча “Пан Тадэвуш”.
- Мастацкая ўмоўнасць у “Пане Тадэвушы” А. Міцкевіча.
- Верш П. Багрыма “Зайграй, зайграй, хлопча малы...”: рэальны факт і мастацкая

вобразнасць твора.
- Новае ў багрымазнаўстве.
- Беларуская "Энеіда навыварат" і "Энеіда" І. Катлярэўскага (параўнальная характарыстыка).
- Беларуская і расійская "Энеіды навыварат": параўнальны аналіз.
- Г. Кісялёў як даследчык "Энеіды навыварат".
- Гістарычная аснова "Спеваў пра даўніх ліцвінаў" Я. Чачота.
- Паэтыка баладаў Я. Чачота.
- Асоба Я. Чачота ў карэспандэнцыі філаматаў.
- "Успаміны" Ф. Савіча як твор мемуарнай літаратуры.
- Асаблівасці гумару М. Асорыя і П. Янкоўскага.
- Т. Лада-Заблоцкі і Ф. Савіч: перыпетыі лёсу і творчасці.
- Майстэрства І. Ходзькі-апавядальніка.
- Караль Радзівіл Пане Каханку ў творчасці І. Ходзькі і Г. Равускага.
- Духоўны ідэал у прозе І. Ходзькі.
- Гістарычная аснова "Успамінаў квестара" І. Ходзькі.
- Беларускі фальклор у баладах Я. Баршчэўскага.
- Праблема мастацкай умоўнасці ў прозе Я. Баршчэўскага.
- Нацыянальна-патрыятычная тэма ў "Шляхціцы Завальні" Я. Баршчэўскага.
- Паэт і Айчына ў "Жыцці Сіраты" Я. Баршчэўскага.
- Духоўны ідэал у аповесці "Драўляны Дзядок і кабета Інсекта" Я. Баршчэўскага.
- Сутнасць метамарфозаў Я. Баршчэўскага ("Ваўкалак", "Белая Сарока" ды інш.).
- Паэтыка гавэнды У. Сыракомлі.
- Беларускі фальклор у творчасці У. Сыракомлі.
- Народнасць У. Сыракомлі.
- Паэма В. Каратынскага "Таміла" ў кантэксце тагачаснай літаратуры.
- Матывы лірыкі В. Каратынскага.
- Традыцыі А. Міцкевіча ў паэтычнай творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча.
- У. Сыракомля і В. Дунін-Марцінкевіч: гісторыя ўзаемаадносін і тыпалогія творчасці.
- Фальклярызм паэзіі В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Міфалогія ў паэтычным эпасе В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Мастацкі тып апавядальніка ў паэтычным эпасе В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Сентыменталізм у паэтычным эпасе В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Рамантычныя тэндэнцыі ў твочасці В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Трансфармацыя народнай балады ў паэме В. Дуніна-Марцінкевіча "Травіца брат-сястрыца".
- Шляхецкія тыпы ў паэме В. Дуніна-Марцінкевіча "З-над Іслачы, або Лекі на сон".
- Асаблівасці гістарызму ў "Стаўроўскіх дзядах" В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Традыцыі і наватарства ў "Халімоне на каранацыі" В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Жанрава-стылёвая характарыстыка паэтычнага эпасу В. Дуніна-Марцінкевіча на беларускай мове.

- Майстэрства В. Дуніна-Марцінкевіча – камедыёграфа (“Залёты”).
- Традыцыі заходнееўрапейскай літаратуры ў драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча.
- Творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча і польская літаратура.
- Сатырычнае майстэрства ў паэме “Два д’яблы”.
- Паэмы “Два д’яблы” і “Тарас на Парнасе”: параўнаўчы аналіз паэтыкі.
- Паэма “Тарас на Парнасе” ў беларускім літаратуразнаўстве.
- Аляксандр Рыпінскі ў гісторыі беларускай літаратуры.
- Мастацкія асаблівасці “Альбома” А. Вярыгі-Дарэўскага.
- Творчасць Ю. Ляскоўскага.
- Беларускія рэаліі ў творчасці А. Плуга.
- Ідэйна-мастацкія асаблівасці драматычнага абразка Г. Марцінкевіча “Адвячорак”.
- Паэма “Мачыха” Адэлі з Устроні ў кантэксце творчасці А. Міцкевіча.
- Творчасць К. Каліноўскага і ананімная літаратура 60-х гг. XIX ст.
- Павел Шпілеўскі ў гісторыі беларускай культуры.
- Гісторыя і культура Беларусі ў даследаваннях А. Кіркора.
- Паэтыка беларускамоўнае ананімнае літаратуры XIX ст.
- Праблема нацыянальнага самаўсведамлення беларусаў у творчасці Ф. Багушэвіча.
- Духоўна-эстэтычныя ідэалы ў творчасці Ф. Багушэвіча.
- Гуманізм творчасці Ф. Багушэвіча.
- Жанрава-стылёвыя асаблівасці паэзіі Ф. Багушэвіча.
- Жанравыя асаблівасці прозы Ф. Багушэвіча.
- Ф. Багушэвіч і У. Сыракомля: традыцыі і тыпалогія творчасці.
- Аляксандр Ельскі ў гісторыі беларускай культуры і літаратуры.
- “Мемуары” А. Абуховіча ў кантэксце жанру.
- Асоба аўтара ў “Мемуарах” А. Абуховіча.
- Я. Лучына і Ф. Багушэвіч: тыпалогія творчасці і самабытнасць таленту.
- Паэма Я. Лучыны “Паляўнічыя акварэлькі з Палесся” ў кантэксце традыцый М. Гусоўскага, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі.
- Польскамоўная лірыка Я. Лучыны.
- Паэтычнае майстэрства Я. Лучыны.
- Абразок Я. Лучыны “З крывавых дзён” у кантэксце паўстання 1863–1864 гг.
- Паэтыка Ф. Тапчэўскага.
- Творчасць З. Манькоўскай.

*Вучэбнае выданне*

**Гісторыя беларускай літаратуры** (XVIII–XIX стст.):
Вуч. праграма для вышэйшых навуч. установ
па спецыяльнасці 1-21 05 02 Беларуская філалогія

**Аўтары-складальнікі:**

***Хаўстовіч Мікола Валянцінавіч***
***Запрудскі Ігар Мікалаевіч***
***Тарасюк Любоў Канстанцінаўна***

Адказны за выданне
*М. Хаўстовіч*

Падпісана да друку 12.05.2005. Фармат 60Х84/16. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 2,7. Ул. выд. арк. 3,0. Наклад 50.

ВТАА "Права і эканоміка". Ліцэнзія ЛВ 02330/0056831 ад 01.04.2004 г.
220072 Мінск, вул. Сурганава 1, корп. 2.
УП "КНІГА" Мінск, В. Харужай, 31а

Выдадзена
коштам асабістых складак
сяброў кафедры гісторыі беларускае літаратуры